# Чакаем на першы польска-беларускі слоўнік

Не будзем нікога пераконваць, як вельмі патрэбны беларускаму насельніцтву ў Польшчы, асабліва інтэлігенцыі, польска - беларускі слоўнік. Ды не толькі беларускаму насельніцтву. Слоўнікам будзе карыстацца кожны, хто толькі цікавіцца беларускай мовай і літаратурай, развіцём беларускай культуры.

Дагэтуль, нажаль маем толькі руска - беларускі слоўнік, выдадзены ў Маскве ў 1953 годзе, які з'явіўся ў Польшчы ў сакавіку 1954 года, у абмежаванай колькасці экземпляраў. Зразумела, што беларускае насельніцтва ў Польшчы лепш ведае польскую мову ад рускай. Таму, каб дабрацца да нейкага патрэбнага беларускага слова з гэтага слоўніка — прыходзіцца ў першую чаргу ўзяць у рукі слоўнік польска - рускі, знайсці ў ім адпаведнае рускае слова, а потым у слоўніку руска - беларускім адшукаць патрэбнае слова беларускае.

Думкі аб падрыхтоўцы польска - беларускага слоўніка радзіліся ўжо некалькі гадоў таму назад. Яшчэ ў 1952 годзе рэд. Б. Манкевіч звярнуўся да Міністэрства Асветы з прапановай, каб выдаць такі слоўнік, матывуючы гэта неабходнасцю карыстанца слоўнікам у першую чаргу пры апрацоўцы беларускіх падручнікаў.

У студзені 1954 года прыехала ў Польшчу праф. А. С. Фідроўская чытаць лекцыі па апісальнай граматыцы беларускай мовы для студэнтаў рускай філалогіі. У гутарках з праф А. С. Фідроўскай рэд. Б. Манкевіч закранаў справу апрацавання польска - беларускага слоўніка Справай гэтай зацікавілася праф. А. Яблонская і рэд. Б. Манкевіч быў запрошаны ў снежані 1951 года ў Польска - Савецкі Інстытут на канферэнцыю, на якой была абмеркавана і вырашана справа працы над польска - беларускім слоўнікам. Трэба тут сказаць, што да гэтай працы зусім нельга было-б прыступіць калі-б не было руска - беларускага слоўніка.

Апрацаваннем слоўніка заняўся Аддзел беларускай філалогіі пры Польска - Савецкім Інстытуце. Пад кіраўніцтвам праф. А. Яблонскай прыступілі да працы над слоўнікам рэд. Б. Манкевіч, магістрантка Варшаўскага Універсітэта Л. Халевінская, мгр. Л. Базылюк і студэнты рускай філалогіі Л. Гутнік і Б. Мэрынг. Калектыў праводзіць пастаянныя кансультацыі з праф. Варшаўскага Універсітэта Н. В. Бірылам.

Праца над слоўнікам пачалася ў студзені 1955 года. У лютым, бягучага года, закончана выпісванне слоўнікавых картак, якіх налічваецца каля 30 тысяч. Ад гэтых-жа картак і пачынаецца працэс працы над слоўнікам. Да польскіх слоў, выпісаных на картках, дапісваюцца адпаведныя беларускія словы. Пасля двух спраўджэнняў карткі перапісваюцца на адпаведныя аркушы паперы праз кальку ў трох экземплярах. Адбываецца яшчэ адна праверка перапісаных на аркушах слоў і потым гатовыя аркушы могуць ужо пайсці да выдавецтва. У польска - беларускім слоўніку будзе каля 30 тысяч слоў, сярод якіх знойдзецца таксама вялікая колькасць фразеалагічных зваротаў. Да гэтага часу амаль палова слоўніка ўжо праверана і перапісана на аркушы. Апрацоўка павінна быць закончана да канца 1957 года, а прыблізна, у канцы 1958 г. слоўнік гэты маецца выйсці з друку.

Сапраўды апрацаванне слоўніка ідзе вельмі паволі. Калектыў тлумачыць гэта тым, што ён робіць піянерскую працу, таму, што гэта першы ў гісторыі славянскай філалогіі польска - беларускі слоўнік .

Ёсць таксама вялікія клопаты з выдаваннем слоўніка. Слоўнік павінна выдаць выдавецтва «Wiedza Powszechna». Ад сакавіка гэтага года вядуцца размовы з выдавецтвам, якія яшчэ не закончаны, таму што друк слоўніка вельмі каштоўны.

31 мая 1957 года ў выдавецтве «Wiedza Powszechna» па ініцыятыве Выдавецкага камітэта пры Беларускім грамадска - культурным таварыстве адбылася канферэнцыя. У канферэнцыі ўзялі ўдзел: прадстаўнік Міністэрства Асветы інспектар Гасеўскі, дырэктар «Wiedzy Powszechnej» Парноўскі, рэд. Кандратовіч, рэд Б. Манкевіч і аўтар гэтага артыкула. На канферэнцыі дыр. Парноўскі выясніў, што «Wiedza Powszechna» ахвотна будзе друкаваць слоўнік, толькі патрэбныя на гэта фінансавыя сродкі, якіх нажаль выдавецтва не мае. Вельмі мала цікавіцца слоўнікам «Дом Ксёнжкі», аб чым найлепш сведчыць факт, што яго прадстаўнік не прыйшоў на канферэнцыю. «Дом Ксёнжкі» абяцае прыняць у продаж толькі дзве тысячы экземпляраў слоўніка.

Трэба дамагацца, каб знайшліся датацыі на польска - беларускі слоўнік, каб ён друкаваўся не ў двух—а ў дзесяці тысячах ,экземпляраў і, каб неўзабаве ён паявіўся на нашым кніжным рынку і трапіў да ўсіх тых, якія доўга на яго чакаюць.

ВІКТАР ШВЕД

# ПАДУМАЙЦЕ АБ СВАІХ ДЗЕЦЯХ...



Міла глянуць на здаровае вясёлае дзіця, якое добра бавіцца і не прычыняе хатнім лішняга клопату.

— Добра гадуецца — кажуць суседзі і знаёмыя, а бацькі са задавальненнем прытакваюць. Можна сказаць, што добра развіваючыеся дзеці будуць потым добра вучыцца ў школе і вырастуць на добрых людзей. Бо ці-ж ёсць такія бацькі, якія не хацелі-б каб сваё дзіця выхаваць на добрага чалавека.

Як-жа запэўніць дзіцяці апеку і ўласцівыя ўмовы развіцця ўлетку калі трэба ісці на працу ў поле?

Выхад можа быць толькі адзін. Трэба сарганізаваць «дзяцінец» ці дзіцячы сад, у якім пад апекай адпаведна падрыхтаваных выхавацельніц дзеці будуць бавіцца, прызвычайвацца да парадку і чысціні, шанаваць працу дарослых і падрыхтоўвацца да навукі ў школе. А матулькі будуць спакойна і лепш працаваць ведаючы, што для іх дзяцей ніякая крыўда не дзеецца.

Аб сарганізаванні ўласцівай апекі над дзяцьмі ўлетку, павінны клапаціцца разам з бацькамі таксама і Грамадскія рады нарадовыя, земляробчыя гурткі і ўсе тыя, якім ляжыць на сэрцы справа выхавання дзяцей разам са справай павышэння ўраджаю.

Вельмі добра разумее гэта гурток вясковых гаспадынь у Баршчэве і Галоўках Вялікіх, Беластоцкі павет. Яны ўжо прыслалі Павятовай радзе нарадовай спісак дзяцей і задэклараваную бацькамі аплатнасць у постаці прадуктаў ці грошай.

Таксама прыгатаўляюцца вёскі Дуброўскага павета як: Ліпск, Скіблеба, Новы Двор і Бартнікі.

Дзіцячыя сады ў Дуброўскім павеце будуць змяшчацца ў школах. Мясцовыя настаўнікі вельмі ахвотна згадзіліся ўлучыцца да працы ў садах. Прэзідыумы Павятовых рад нарадовых маюць крэдыты прызначаныя на аплачванне выхавацельніц, кухарак, на закуп неабходных прыладаў, навучальных дапаможнікаў, цацак і г. д.

Аддзелы аховы здароўя са свайго боку запэўніваюць забяспечыць добрай кадрай, а Аддзелы гандлю надзеляць апал.

Падумайце і вы аб забеспячэнні сваіх дзяцей на лета.

І. ВЕРАС.

— Не таіся, расказвай, дзе вучыўся?..

— Ты ведаеш больш, чым сам Кульбак.

Як расказаць, што адзіным яго настаўнікам былі кнігі, якія ён браў з сабой у поле на начлег, чытаў пры месяцы, пры вогнішчы?

— Адкуль ты ведаеш, дзе вучыўся?! — дапытваўся Уладзік.

— Кнігі навучылі мяне, — усхвалявана адказаў Янка.

## ПА КНІГІ.

Настаў жнівень з душнымі начамі, частымі навальніцамі. Прытуліўшыся лбом да акна, Янка любіў глядзець, як чорнае неба рассякала маланка. Часамі здавалася, што вогненныя стрэлы накіраваны проста на яго. Сэрца ў Янкі, то замірала, то пачынала гулка біцца.

У гэтыя дні ён пазнаёміўся са старым Сігізмундам Чаховічам, які жыў у маёнтку Бяседы. Туды, у маёнтак, прывозілі пошту. Здаўся бацька на Янкавы ўгаворы, дазволіў урэшце падпісацца на газеты і часопіс «Родина». Набліжаўся вечар. Каб скараціць шлях да маёнтка, Янка знайшоў лаз у стары панскі парк. Прабіраўся раўчуком, які, мабыць, прабілі пад мураванай сцяной вясновыя воды. Крапіва апякала Янку твар і рукі; здавалася, з-пад самага носа выскоквалі жабы і яшчаркі. Затое яшчэ завідна ён прабраўся да высокага дома з калонамі. Падняўшыся з-за кустоў, бачыў, як па пасыпанай пяском дарожцы прайшла пані, каротка стрыжаная, са звязкай ключоў на поясе. Янка пачакаў, калі яна схаваецца за домам, абмацаў у сябе за пазухай скрутак, квітанцыі на часопіс і газеты, сухі сыр і кавалак сала. Пасля падышоў да непрыкметных для вока дзвярэй. Яны паддаліся пад рукой, прапускаючы яго ў нізкі халаднаваты пакой. На падлозе, ля сцен — усюды тут ляжалі і стаялі кнігі. І было іх такое мноства, што ў Янкі заняло дыханне. Усё-б на свеце ён аддаў, каб жыць сярод гэтых кніг і чытаць, чытаць.

Сухенькі дзядок, як голуб, сівы і спакойны, адарваўся ад акенца, якое было роўна з зямлёй.

— Гэта ты, Яначак? Я так і ведаў... Хадзі да мяне, мой хлопчык, хадзі.

Рукі ў яго дрыжалі, вочы слязіліся. Быў стары такі худы і слабы, што, гледзячы на яго, Янка думаў: «Вось прыду другі раз і знайду яго мёртвым... Што тады?!» Знікне цудоўны новы свет, адкрыты ў гэтых кнігах.

Не, не можа расстацца з ім Янка. Усе харчы, якія дае яму ў поле маці, застаюцца цэлымі. Ён нясе іх сюды, каб хоць крыху падтрымаць старога. Той прагна есць, а Янка з такой-жа прагнасцю накідваецца на кнігі. Некрасаў, Кальцоў, Лермантаў, Пушкін, Канапніцкая — усё гэта прачытана. Яны сталі яго вялікімі-вялікімі сябрамі, без іх яму ўсюды пуста і самотна.

Наеўшыся, стары садзіць Янку побач з сабой і пачынае распытваць, што чуваць на волі. Усё яго цікавіць — як жывуць навакольныя сяляне, што думае рабіць далей Янкаў бацька. Пра ксяндза ён пытае, пра салдат і жандараў. Янка ледзь паспявае яму адказваць. У памяці старога блытаецца мінулае і сучаснае, даўно памёршыя і загінуўшыя ў Сібіры сябры ажываюць перад яго вачыма. Забыўшыся, ён, як з жывымі, вядзе з імі размову.

І раптам звяртаецца зноў да свайго госця:

— Пачаставаў-бы я цябе, Яначка, ды вось бачыш. Прыслала яна адну шклянку гарбаты і лустачку хлеба з маслам...

Яна — гэта тая самая пані з ключамі. Яе ведаюць усе навакольныя сяляне. Варта непадалёку паказацца чыёй-небудзь падводзе, як адразу-ж пачуецца прарэзлівы голас:

— Стой! Хто там едзе?!

У нядзелю Дамінік Ануфрыевіч ездзіў звычайна ў мястэчка на кірмаш. Пані крычала і яму. Пачуўшы ў адказ «Луцэвіч», яна выходзіла на дарогу і доўга стаяла ля воза, гутарыла з ім. Пыталася, ці цельная карова, якім цялём, колькі парасят прывялі свінні, як уродзіць збожжа, колькі яек паклалі пад гуску. Пытанні былі заўсёды аднолькавыя. Але і Дамінік Ануфрыевіч, і другія суседзі цярпліва слухалі. Па-першае, цераз панскі двор быў карацейшы шлях у мястэчка, а незнаёмых пані прымушала аб'язджаць кругом. Па-другое, вельмі добрыя чуткі хадзілі пра самога старога збяднелага пана Зыгмунта Чаховіча. У народзе гаварылі, што ён адстойваў мужыцкую праўду, удзельнічаў у паўстанні, за што быў сасланы ў Сібір. А як вярнуўся дадому, стаў жыць тут поўлегальна, бо ва ўсіх дзяржаўных спісах яго даўно лічылі нябожчыкам. Чуў пра гэта не раз ад бацькі Янка і быў вельмі шчаслівы, што пасябраваў з такім чалавекам.

*(Працяг будзе)*

 

# Ці мяняецца клімат?

Нярэдка задаюць пытанне: чаму за апошні час змяніўся клімат нашай краіны. Не бывае цяпер такой суровай, як раней, зімы і гарачага лета. Чаму гэтай зімой былі цёплыя снежань і студзень? Ці не азначае гэта, што клімат робіцца больш цёплым?

Многія людзі думаюць, што клімат мяняецца не на працягу мільёнаў год, як гэта ёсць на самай справе, а вельмі хутка. Часта можна пачуць размовы аб тым, што, маўляў, нават старыя не памятаюць то такой цёплай зімы, то такой спякотнай засухі, то зацяжных дажджоў, то вялікай буры. Звычайна знаходзяцца і «тлумачэнні» рэдкім з'явам прыроды. Адны звязваюць іх з вырубкай лясоў, доўгія — з дзеяннем артылерыі і авіяцыі ў час вайны, а ў апошні час у зарубежным друку часта пішуць аб уплыве на клімат выбухаў атамных бомб. Але гэтыя тлумачэнні нічога агульнага не маюць з навукай.

Пэўныя адхіленні ад кліматычнай «нормы» яшчэ не сведчаць аб змяненні клімату. Суровыя зімы могуць здарацца некалькі год запар, але гэта не азначае, што надышло агульнае пахаладанне, дзве-тры цёплыя зімы не сведчаць аб агульным пацяпленні.

Вывад аб пахаладанні або пацяпленні можна зрабіць, аналізуючы даныя за дзесяткі і сотні тысяч год. Вучоныя ўстанавілі, што клімат, як і ўся прырода, няспынна змяняецца. Яшчэ ў XVIII стагоддзі геолагі меркавалі, што ў мінулым клімат зямлі неаднаразова і рэзка мяняўся. Эпохі пахаладання, якія суправаджаліся абледзяненнямі, змяняліся больш цёплымі перыядамі.

Велізарныя тоўшчы лёду пакрывалі калісьці і тэрыторыю нашай краіны. Але гэтыя рэзкія змены адбываліся на працягу не тысячагоддзяў, а дзесяткаў і соцен мільёнаў год. Таму за ўвесь гістарычны перыяд, які налічвае некалькі тысяч год, клімат змяніўся вельмі нязначна. Гэты вывад, зроблены буйнейшым савецкім вучоным, акадэмікам Л. С. Бергам, атрымаў цяпер амаль усеагульнае прызнанне.

Аб змяненні клімату за апошнія тысячагоддзі можна прыблізна меркаваць па даных старадаўніх летапісаў, літаратурных і іншых помнікаў, па даных такіх навук, як геалогія, біялогія і г. д. Так, напрыклад, па гадавых кольцах доўгавечных дрэў можна вызначыць змену дажджлівых і сухіх перыядаў, аб ваганнях клімату мяркуюць па адкладаннях стужкавых глін у азёрах і г. д.

Пры дапамозе розных метадаў удалося арыенціровачна намеціць змяненне кліматычных умоў у Еўропе і ў некаторых іншых раёнах за апошнія тысячагоддзі. Вучоныя лічаць, што 7.000—4.000 год назад клімат у Еўропе быў больш цёплы. Поўнач еўрапейскай часткі СССР была пакрыта высокаствалавай раслліннасцю, а ў цяперашняй лясной зоне распасціраўся стэп. Затым клімат стаў больш халодны і вільготны. Лес пачаў наступаць на стэп, тундра — на тайгу, узровень вады ў азёрах падняўся, узмацніўся рост тарфянікаў. Гэты «субатлантычны» клімат утрымліваецца і цяпер. Аднак у час гэтых карэнных змен клімату наглядаліся ваганні тэмпературы і вільготнасці рознай працягласці і інтэнсіўнасці. Так, паводле даных прафесара С. П. Хромава і іншых вучоных, у XI — XIII стагоддзях нашай эры клімат Еўропы, а магчыма і Азіі, быў адносна мяккі і сухі: у Альпах, Нарвегіі і Ісландыі ледавікі мелі мінімальнае распаўсюджанне, а ў Грэнландыі паспяхова займаліся жывёлагадоўляй. У XV—XVI стагоддзях пачалося пахаладанне, павялічылася ледавітасць мораў. Яно працягвалася да палавіны XIX стагоддзя.

У другой палавіне XIX стагоддзя намецілася новае змяненне клімату, якое прывяло да сучаснага пацяплення. Важнейшая яго асаблівасць — павышэнне тэмпературы паветра. Пачаўшыся прыкладна ў 70-х гадах, яно ўзмацнілася ў пачатку XX стагоддзя. Крыху змяніўшы свой характар да 40-х гадоў, пацяпленне працягваецца і цяпер. Цікава адзначыць, што пацяпленне адбываецца галоўным чынам за кошт халоднага часу года. Так, напрыклад, сярэдняя, выведзеная за дзесяцігоддзе (1931—1940 гг.) тэмпература студзеня ў Маскве была амаль на 4 градусы вышэйшая, чым у 1920 — 1929 гг., сярэдняя тэмпература ліпеня за гэты-ж час павысілася на 0,9 градуса.

Існуе думка, што ваганне клімату перыядычна паўтараецца. Так, некаторыя вучоныя ўказваюць на рэгулярныя 11-гадовыя, 36-гадовыя і нават 100-гадовыя перыяды пацяпленняў і пахаладанняў. Аднак назіранні апошніх дзесяцігоддзяў не пацвердзілі такой перыядычнасці.

Якія прычыны выклікаюць змяненне і ваганне клімату?

Ёсць некалькі гіпотэз наконт гэтага. Адны мяркуюць, што змяненне клімату абумоўліваецца прычынамі касмічнага парадку: аслабленнем або ўзмацненнем сонечнай радыяцыі (выпрамянення), праходжаннем планеты скрозь туманнасць і г. д. Другія гіпотэзы звязваюць перамену клімату са змяненнем вярчэння Зямлі і нахілу зямной восі, трэція—са змяненнем зямных умоў (нарастанне плошчы мацерыкоў, змяненне складу атмасферы, размеру Зямлі, адхіленне акіянічных цячэнняў і г. д.). Большасць даследчыкаў лічыць, што прычына цяперашняга пацяплення (яно адносіцца да ваганняў клімату з кароткай перыядычнасцю) тоіцца ва ўзмацненні агульнай атмасфернай цыркуляцыі, звязанай з павелічэннем сонечнай актыўнасці, г. зн. з большым выпраменьваннем сонечнага цяпла, ультрафіялетавых праменняў.

Узмацненне сонечнай актыўнасці наглядалася ў мінулым годзе, чакаецца сёлета і ў будучым годзе. Яно зробіць значны ўплыў на павелічэнне атмасфернай цыркуляцыі і надвор'е.

А. ШКЛЯР.



*Набліжаюцца канікулы. Выкарыстайце вольны час на паглыбленне ведаў па прыродазнаўстве.*
*На здымку вы бачыце маладых заолагаў, якія ўважліва разглядаюць пабудову злоўленага ў рэчцы рака.*
*Фота — ЦАФ.*

## Расліны якія «страляюць»

*Вядома нямала раслін, якія ў барацьбе за існаванне выпрацавалі арыгінальны спосаб рассейвання свайго насення, — яны «страляюць» ім, як страляе ружжо шротам.*

*У розных месцах СССР можна сустрэць такія «страляючыя» расліны. Гэта шалёны агурок, сібірская хахлатка, жоўтая акацыя, фіялка і іншыя.*

*Рэкордных вынікаў па «дальнасці стральбы» дасягае шалёны агурок. Радзіма гэтай гарбузовай расліны — Каўказ. У дзікім выглядзе яна сустракаецца ў Поўднёвай Еўропе.*

*Пры пасяванні ў сценках плода, які нагадвае звычайны агурок, разрастаюцца асобыя клеткі; яны моцна ціснуць на слізістае змесціва плода, ціск дасягае прыкладна трох атмасфер. Канец ножкі такога агурка выконвае ролю корка. Варта крануць яе, як ад унутранага ціску ён вылятае з гучным трэскам; струмень з «выстраліўшага» шалёнага агурка здолен пырснуць на адлегласць 6—8 метраў.*

*Амаль таксама вядзе сябе заячая кісліца, якая сустракаецца ў цяністых яловых лясах.*

# Горад на дне возера

Паміж горных вяршынь Арменіі знаходзіцца вялікае возера Севан. Ад пэўнага часу ўзровень вод возера беспераПынна змяншаецца. Воды Севана падаюць праз тунель зроблены ў скале, на турбіны і гідраэлектрастанцыі і плывуць да ўраджайнай нізіны Аркс навадняючы па дарозе палі і вінаградныя плантацыі.

Узровень вод будзе зніжацца да часу прадбачанага інжынерамі. Аднак ужо цяпер паказалася з вады значная частка дна адкрываючы чалавечаму воку схаваныя на працягу 3.000 год таямніцы.

Калісьці на дне Севана знаходзіўся вялікі, багаты горад з вялікімі дамамі і шырокімі вуліцамі і пляцамі накшталт чатырохвугольнікаў. На адным з такіх пляцоў, археолагі адкрылі вялікі камень пакрыты клінапісам. На тым камені выдаўбана імя цара Аргішта I. Сведчыць гэта аб тым, што гэты горад калісьці належаў да ўладальнікаў старажытнай дзяржавы Урарту.

Археалагічная экспедыцыя Гістарычнага музея Арменскай Акадэміі навук распачала даследы на дне возера ад праВядзення раскопак двух курганоў з XI ст. да н. э. У курганах адкрыта скалістыя нішы глыбінёю да 3 метраў. Памерлых жыхароў горада не хавалі ў зямлі, але клалі ў скалістых магільнях, дзякуючы чаму, магілы захаваліся яшчэ ў добрым стане.

Адкрыцці на дне возера Севан яшчэ раз пацвердзілі гіпотэзу савецкіх вучоных, што катлавіну возера калісьці засяляў народ аб высокай культуры. У старажытны перыяд тэктанічныя зрухі гор замкнулі катлавіну, і воды 28 рэк сплываючы ў яе, утварылі найвялікшае на Каўказе возера аб цяперашняй плошчы 1.416 кв. км.

## Свята Клеапатры

У гэтым годзе спаўняецца 2.000 гадавіна ўступлення на трон егіпецкай каралевы Клеапатры. У Егіпце гэтая гадавіна будзе адзначацца вельмі ўрачыста. Адбудуцца гістарычныя відовішчы і правядзецца рэканструкцыя славутых старажытных будоўляў, што прад вачыма егіпцян і шматлікіх турыстаў створыць карціну пышнасці легендарнай эпохі.

# Ці ведаеце, што…

...вынаходнік Фернандо Салдана намеран пабудаваць у Мексіцы водную электрастанцыю, якая будзе прыведзена ў дзеянне энергіяй марскіх хваляў. Доследная электрастанцыя будзе пабудавана на працягу бліжэйшых 8-мі месяцаў.

*

...у Вялікабрытаніі праведзена выпрабаванні самалёта, які можа падымацца і сядаць па вертыкалі (пёнова). Самалёт мае 4 доўгія «нагі» і 2 супрацьлеглыя рухавікі. Самалётам лётчык кіруе пры дапамозе сціснутага паветра.

*

...савецкія вучоныя, для лоўлі рыб ужылі электрычнае святло. Першыя выпрабаванні, праведзеныя на Чорным і Каспійскім марах, далі вельмі добрыя вынікі. За няцэлыя тры мінуты паблізу крыніцы святла апынулася мноства рыб і... выцягнута сетку поўную рыб.

*

...у Нямеччыне праводзіцца выпрабаванні з ахоўнай адзёжай са шклянога валакна, якая вытрымлівае тэмпературу звыш 1.000 градусаў. Гэтая адзёжа з'яўляецца ўстойлівай не толькі на высокія тэмпературы, але таксама і на дзеянне радыёактыўных рэчываў і шкодных хімікаліяў.

*

...на палях Аўстраліі паявіўся дыстанцыйна кіраваны трактар. Трактар працуе без шафёра. У кабіне абсталявана кіруючу ўстаноўку. У ферме, у так званым кантрольным пакоі, сядзіць чалавек, які можа рэгуляваць хуткасць едучага полем трактара, заварочваць яго, калі трэба, і г. д. — усё толькі націснуўшы адпаведную кнопку і рычажок перадавальна — кіруючай ўстаноўкі.

Кулінарыя

## Рыба фаршыраваная

Рыбу ачысціць ад лускі, адрэзаць галаву, не разразаючы брушка, дастаць унутро; выкінуць з галавы жабры, прамыць халоднай вадой і нарэзаць рыбу папярочнымі кавалкамі.

З кожнага кавалка рыбы выразаць мякаць, не пашкодзіўшы скуры. Для прыгатавання фаршу выразаную мякаць разам з цыбуляй і хлебам, намочаным у вадзе і выціснутым, прапусціць праз мясарубку. У фарш дадаць сырое яйка, соль і ўсё старанна перамяшаць.

Прыгатаваным фаршам запоўніць кавалкі рыбы ў тых месцах, дзе была выразана мякаць, і параўняць нажом, змочаным у вадзе.

На дно каструлі пакласці нарэзаныя кружочкамі буракі і моркву, а таксама старанна прамытае цыбульнае шалупінне.

Наверх гародніны пакласці фаршыраваныя кавалкі рыбы, на іх яшчэ слой гародніны, потым зноў рыбу і зноў слой гародніны. Рыбу з гароднінай заліць халоднай вадой так, каб вада толькі пакрыла іх і, закрыўшы каструлю, паставіць варыць на слабы агонь на 1,5 — 2 гадзіны, лічачы з моманту закіпання вады. Пры гатаванні неабходна сачыць, каб рыба і гародніна не прыгарэлі; верхні слой рыбы трэба зрэдку паліваць бульёнам.

Перад падачай на стол рыбу разам з гароднінай перакласці на блюда, бульён, які застаўся, працадзіць і паліць ім рыбу.

Пры жаданні ў атрыманым бульёне можна зварыць ачышчаную бульбу і выкарыстаць яе на гарнір да рыбы.

Такім спосабам можна прыгатаваць шчупака, судака, ляшча і карпа.

На адну вялікую рыбу (2—3 кг) — 100 да 200 г. белага хлеба, 300 г. цыбулі, 2 буракі, 3 морквы, 1 ст. лыжку цукру, 2 яйкі, 1 ст. лыжку алею.



 

